● *ВЯСКОЎЦЫ*

## З кнігай і з людзьмі

Дарма кажуць некаторыя, што бібліятэка ў вёсцы сёння, маўляў, і не патрэбна. Купіў у магазіне неабходную кніжку і чытай, калі хочаш і колькі хочаш. Свая!

Але ж Фаіна Аляксандраўна Бурына, загадчыца Сакоўскай сельскай бібліятэкі, думае інакш.

-- Я працую ў бібліятэцы тут, у Сакоўцах, 41 год, — сказала Ф. А. Бурына. – І ўвесь час у мяне ёсць чытачы, пачынаючы са школьніка і канчаючы пенсіянерам. Думаю, што пакуль будзе існаваць бібліятэка, датуль не перавядуцца чытачы. Я ўпэўнена ў гэтым...

У тым далёкім 1957 годзе дзяўчына з вёскі М. Галік (гэта на мяжы Івацэвіцкага і Слонімскага раёнаў) паступіла ў бібліятэчны тэхнікум у Магілёве і вучыцца б ёй далей. Але захварэла маці і трэба было быць побач з ёй. А тут дзяўчыне прапанавалі месца бібліятэкара ў Сакоўцах. Гэта ад яе роднай вёскі каля чатырох кіламетраў. Згадзілася. А тэхнікум ужо закончыла завочна. Тут выйшла замуж і, вядома, пасялілася. Назаўсёды. А яе бібліятэка, адзіная на чатыры вёскі – Сакоўцы, Гладышы, Даргужы, Лазаўцы – стала цэнтрам культурна-асветніцкай работы.

— Яшчэ гадоў дзесяць—пятнаддаць таму, — гаворыць Фаіна Аляксандраўна, — калі больш маладых людзей жыло ў вёсках, мы арганізоўвалі самадзейнасць, праводзілі розныя вечары, наладжвалі вячоркі. А цяпер большасць нашых чытачоў пенсіянеры. Нягледзячы на гэта, работа з кнігай не спынілася...

А ўсяго ў бібліятэцы 145 чытачоў. Прыходзяць сюды наведальнікі з Бусяжа і Мілеек. Кніжны фонд цяпер невялікі – каля пяці тысяч экземпляраў.

Хаця кніжак у бібліятэцы і не многа, усё ж ёсць нямала цікавай літаратуры. Найбольш зношаныя томікі Фаіна Аляксандраўна не выкідае, не спісвае, а акуратна падклейвае і такім чынам падоўжвае кніжны век.

Акрамя кніг, наведвальнікі могуць пачытаць свежыя газеты і часопісы.

Дарэчы, само памяшканне бібліятэкі невялікае, але даволі ўтульнае, утрымліваецца ў добрым санітарным стане, афармлена з густам. Ёсць спецыяльныя стэнды, зроблены падборкі тэматычнай літаратуры: «Зямля, дзе пачаўся твой лёс», «Калі хочаш край свой ведаць», «Прыгарніся да роднага слова», «Без памяці няма сумлення».

Асобна на бачным месцы пад загалоўкам «Слова аб роднай зямлі» зроблена выстава кніг славутага земляка Піліпа Пестрака.

Ёсць у бібліятэцы і дзіцячы куток. Пад рубрыкай «Што чытаць» на картках рэкамендуецца спіс літаратуры. Тут жа можна пазнаёміцца з выставай розных дзіцячых вырабаў (лепка, вышыванне) і малюнкаў мясцовых школьнікаў, што наведваюць бібліятэку.

Было б няправільна, калі б я не назваў актыўных чытачоў бібліятэкі. У іх ліку П. К. Барысік, С. У. Пястрак, П. І. Пястрак, А. І. Комар і іншыя.

У тым жа будынку, дзе і бібліятэка, але ў асобным пакоі, размяшчаецца музей, прысвечаны жыццю і творчасці Піліпа Пестрака, ураджэнца вёскі Сакоўцы. Захавальніцай яго на грамадскіх пачатках з'яўляецца Фаіна Аляксандраўна Бурына. Дзякуючы ёй, у музеі створаны краязнаўчы куток, дзе сабраны мясцовыя экспанаты.

Вось так жыве і працуе сельскі бібліятэкар Ф. А. Бурына, энтузіяст сваёй справы, якая ўсё сваё жыццё з кнігай і з людзьмі.

*С. КАЖАДУБ.*
*в. Сакоўцы*
*Івацэвіцкага раёна.*

● *ДЫЯЛОГІ*

## Хто мае патрэбу ў льготах?



Пасля прыпынку цягнік няспешна набіраў хуткасць. Люду ў вагоне прыкметна пабольшала. Хто чытаў газету, хто, нешта думаючы, пазіраў у акно. Побач са мной селі дзве жанчыны сталага ўзросту. Па размове няцяжка было здагадацца, што яны даўнія знамыя, бо спачатку адна адной расказвалі пра сям'ю, дзяцей, потым пачалі палеміку наогул пра жыццё, сённяшні час. І стала зразумела, што ў іх зусім розныя погляды на цяперашні дзень. Мяне зацікавіў іхні дыялог да такой ступені, што захацелася занатаваць спрэчку ў блакнот. Не падаючы выгляду, бяру ручку і нібыта пішу штосьці сваё, асабістае.

Больш менш па-вясковаму апранутая кабета пачала з таго, што дастала з пацёртай сумкі абласную газету «Заря» і ўслых прачытала загаловак.

— Пра якія пенсіі і каму там гаворыцца? — перабіла другая, на выгляд больш інтэлігентная жанчына, няйначай калгасная бухгалтарка ці нехта з сельсавета.

— Пра пенсіі дзяржаўным служачым за выслугу гадоў.

— І што канкрэтна?

— Паводле Дэкрэта прэзідэнта дзяржаўныя служачыя маюць права на пенсію за выслугу гадоў пры дасягненні мужчынамі 55 гадоў, жанчынамі – 50 гадоў і наяўнасці стажу работы не менш 20 гадоў (пры гэтым не менш двух гадоў пасля сакавіка 1994 года).

Жанчына чытала далей, пералічвала катэгорыі служачых, якія карыстаюцца льготамі. Называла работу ў міжнародных арганізацыях па накіраванню органаў улады і кіраванню Рэспублікі Беларусь, работу на прафесійнай аснове ў апараце ЦК КПСС, кампартыі саюзных рэспублік, абкамаў, райкамаў Кампартыі Беларусі, работу інспектараў працы і г. д. Потым не ўстрымалася і запярэчыла: «А што ж гэта, людцы, на белым свеце робіцца? Тыя, хто сядзіць у цёплым кабінеце, ні за што не адказвае, своечасова атрымлівае зарплату ў два, а можа і ў дваццаць разоў большую чым я, яшчэ й карыстаецца такімі прывілеямі. Вось бы папрацавала тая лялечка са мной на ферме, атрымала маю зарплату?"

Дагаварыць усхваляванай жанчыне не дазволіла яе субяседніца, якая заўпарцілася і пачала выказваць свой пункт гледжання: «А хіба прэзідэнт не клапоціцца пра вас, жывёлаводаў, пра пенсіянераў? Пенсію атрымліваеце своечасова і неблагую. А тое, што дзяржаўным служачым скараціў тэрмін працы і дае магчымасць раней ісці на пенсію, дык у іх жа зусім іншая работа. Трэба галавой думаць. Гэта намнога цяжэй, чым рукамі працаваць".

— А настаўнікі, інжынеры ды журналісты не галавой працуюць? — перабіла гаворку першая. – Чаму ў такім разе ім не прадастаўляюцца льготы? Не пра народ прэзідэнт думае, а пра тых, з кім працуе. Падтрымлівае і стварае цяплічныя ўмовы тым, хто выконвае яго загады. — Ведае на каго абапірацца. Што скажа ім, яны тое і робяць.

— Начальству відней, — старалася супакоіць суседку тая, што мела больш інтэлігентны выгляд. – Нялёгка ім бывае. То рэйды, то семінары, то справаздачы.

Яе напарніца не супакойвалася:

— Штосьці я не бачыла ў кабінетах райцэнтра худых і засмучоных бедалаг-начальнікаў. Усе як на падбор, пухленькія, маладжавыя. Непадобныя на майго мужыка, што трасецца гадамі ў трактары. Акрамя таго, яны ж нават на абед пешкам не ходзяць – дзяржаўны транспарт выкарыстоўваюць. Я многае ведаю, ведаю са слоў свайго сваяка, які таксама аціраецца ў тых палацах нібыта сантэхнікам ці Бог яго ведае кім.

— Вясковая ты жанчына, Ганна, — уступіла ў спрэчку другая. – Многа чуеш, а мала ведаеш. Палітыка як і жыццё – справа складаная. Таму першую лепей не чапаць.

— Вось, вось, не чапай, — расчырванелася Ганна. – Калісьці тыя сакратары з райкама прыязджалі на вялікія святы ў нашу царкву і вялі дзяжурства з мэтай сачыць, хто з моладзі, асабліва з камсамольцаў і партыйных, наведвае службу. Адбіралі ў моладзі веру і за тое ім прадастаўляюцца вялікія льготы?

... Я не ведаю, чым скончылася гаворка дзвюх жанчын у вагоне, бо мне трэба было на наступным прыпынку сыходзіць. Вядома, што кожная з іх пасвойму бачыць гэтае жыццё, па-свойму адносіцца, як мы гаворым, да начальства. Што ні чалавек, то свая думка, свой светапогляд. Чытачы, мяркую, адкажуць самі на пытанне: "Каму сапраўды патрэбны льготы"?

*Г. АЛЯКСЕЙЧЫК.*

● *ЭКАНАМІЧНЫ ТУПІК?*

## СТАБІЛІЗАЦЫЯ І ЦЭНЫ

*У афіцыйных газетах паведамілі аб тым, што курс беларускага рубля стабілізаваны, многія цэны на прадукты і тавары таксама.*

*Што азначае гэтая стабілізацыя, мала каму зразумела. Нарабіў шмат шуму долар, які стаў каштаваць аж 60 тысяч беларускіх «зайчыкаў». Спецыялісты сцвярджаюць, што кошт долара расце не хаатычна, а закамерна ў сувязі з абстаноўкай, якая склалася ў эканоміцы. І іншага не можа быць. Не вінаваты ў гэтым ні банкі, ні камерсанты, ні «ворагі» знешнія і ўнутраныя.*

І вось па волі кіраўніка дзяржавы кошт долара зніжаны. Але ці надоўга?

Звонім у Івацэвіцкі збербанк. На наша пытанне аб кошце долара ЗША адказалі наступнае:

Долар купляем за 40 тысяч рублёў, а прадаём за 42 тысячы рублёў. Праўда, у нас зараз няма долараў і нам іх ніхто не здае...

Вядома, што па такой цане мала хто адважыцца прадаць, а вось купіць хацелі б, дык іх не прадаюць, бо няма. А на чорным рынку значна даражэй.

Такое становішча з доларам. А вось становішча з цэнамі на прадукты і тавары зусім іншае. Зверху загадана вярнуць іх на пачатак месяца, гэта значыць па стану на 1 сакавіка.

Што ж вернута? У магазінах нам кажуць адно: у нас цэны тыя ж, што ў пачатку месяца. Маўляў, нічога не падарожала, таму няма падстаў для зніжэння.

Так, яшчэ месяц назад той жа хлеб каштаваў крыху больш як восем тысяч рублёў за буханку, а другога гатунку – звыш пяці тысяч беларускіх «зайцаў». А зараз – адпаведна 9.400 і 6.200 рублёў. І гэта яшчэ не канчатковая яго цана, бо яна амаль чатыры гады ўсё расце і расце.

Так і на іншыя прадукты і тавары.

— Вось у вас пакет кефіру зараз каштуе 7.000 рублёў. Такой цаны на гэты прадукт яшчэ не было, — гаворым прадаўцам магазіна.

— А ў нас кефір тлусты, вось і цана падскочыла, — адказваюць дзяўчаты.

— Выходзіць кефір тлусцей і даражэй малака, здзіўляемся мы.

— Выходзіць так, — згаджаюцца прадаўцы.

Пытаемся ў мужчыны, што выйшаў з прадуктовага магазіна:

— Скажыце, калі ласка, вы былі ў магазіне, што з прадуктаў стала танней?

— А нічога, — сказаў ён. – Вакол адна гаварыльня, адна прапаганда. А заглянеш у магазін, усё як раней. Дураць нам бедным галовы...

Пенсіянерка з кійком у руцэ, што выйшла з магазіна, на тое ж пытанне адказала так:

— Я праз дзень хаджу ў магазін. Штодня мне цяжкавата. Бяру хлеб, малако, кефір. Калі-нікалі батон, пачку пячэння. На каўбасы ў мяне грошай не хапае. Хіба што на свята сабе дазволю. А пра цэны і гаварыць не прыходзіцца. Праз дзень-два ўсё дабаўляюць. Калі б нашы пенсіі так раслі, як цэны...

Паслухаеш людзей і становіцца не па сабе, што іх жыццё, іх дабрабыт на такім нізкім узроўні, і яно горшае на фоне той крыклівай стабілізацыі, пра якую захлёбваючыся пішуць у афіцыйных дзяржаўных газетах.

*С. РЫГОРАЎ.*

● *ТАЛАНТЫ ЖИВУТ РЯДОМ*

## Праздник аккордеона

***прошел в Березовской музыкальной школе под названием "Звучи, аккордеон!", организаванный Березовской школой искусств, отделом культуры и при участии спонсоров — ряда предприятий и организаций березовщины.***

***О фестивале, его целях рассказывает заведующая народным отделением Березовской школы искусств В. К. Косач.***

Цели нашего фестиваля — поднять престиж аккордеона, незаслуженно забытого в наши дни, поставить на более высокий уровень методическую работу преподавателей.

Ну еще и дать больше шансов и возможностей для всех участников из глубинки, т. к. в нашем фестивале принимали участие не только городские музыкальные школы, а даже приехала самая далекая из участвующих школ — Дивинская (это где-то на границе с Украиной).

Я думаю, фестиваль будет иметь свое продолжение. Кстати, это не первый, а уже 3-й фестиваль. Первые два были в г. Белоозерске. И в общем-то идея такого фестиваля принадлежит не мне, а преподавателю Белоозерской музыкальной школы Пенчиной Вере Владимировне. Мы только продолжили ее традиции.

**— Фестиваль имеет статус областного!**

— Первые два были просто районными, а этот, получается, областного значения. На нем были участники из Кобринского, Пружанского, Ивацевичского, Березовского районов. В апреле в Бресте будет проводиться международный фестиваль "Пралеска" и в нем примут участие наши призеры. В прошлом году на "Пралеске" двое наших участников стали лауреатами.

**— А кто стал призером сегодняшнего фестиваля!**

— Это самый маленький участник из Кобринского района Обеюх Иван и трое березовских ребят: Ефимов Сергей, Максимчик Алла, Ярович Саша.

*Беседовал Н. СИНКЕВИЧ.*

● ФИНАНСОВЫЙ КРИЗИС

# «Зайчик» становится символом белорусской национальной трагедии

*Председатель Национального исполнительного комитета, член политсовета Объединенной гражданской партии, вице-спикер Верховного Совета 13-го созыва, член-корреспондент Национальной академии наук Г. Д. Карпенко предложил редакции «Народной воли» свою точку зрения на события «черной пятницы» 13 марта и последующее «воскрешение» по приказу президента белорусского рубля. В день, когда в редакции Геннадий Дмитриевич беседовал с политическим обозревателем Людмилой МАСЛЮКОВОЙ, на информационных табло обменных пунктов уже красовали докризисные цифры: 44 тысячи за доллар — покупка; 45 тысяч за доллар — продажа. А вокруг обменных пунктов — мертвая тишина: никто доллары не сдает, в продаже их нет. За углом с рук один «зеленый» шел за 48—49 тысяч «серенькиx».*

**Геннадий Дмитриевич, признайтесь, что во всем виноваты Вы.**

**Помните, сначала Александр Лукашенко вину за валютную катастрофу возлагал на российских банкиров-спекулянтов. Им-то, понятно, от этих проклятий ни холодно ни жарко. Межбанковская московская валютная биржа не подчинилась указанию председателя Высшего совета Союза Беларуси и России «открутить» курс назад. В Москве биржа приостановила торговлю безналичным «зайчиком» или гнала его по девальвированному курсу все за те же 50—60 тысяч за 1 доллар. Поэтому в Минске занялись поиском тех, кто якобы отсюда «спровоцировал» сотрясение на столичной российской бирже. На пресс-конференции премьер Сергей Линг намекнул: «Это было явная политическая акция». Мысль развил заместитель главы Администрации президента Иван Пашкевич — обвал, дескать, учинила белорусская оппозиция.**

— Я если и грешен, то лишь в том, что как депутат Верховного Совета, политик и председатель Национального исполнительного комитета предсказал беду и доказывал, что она неизбежна. Истинные причины валютного кризиса многообразны, но всерьез анализировать их в интересах нынешней власти, увы, почти безполезно. Белорусская экономика и ее руководители вообще перестали оперировать экономическими понятиями и продолжают работать в приказном режиме, в том режиме, который даже и не снился нашей крепкой сильной коммунистической системе. Нет денег. Не хватает денежных ресурсов. Дается команда — и печатный станок пошел.

**— Опять Вы, Геннадий Дмитриевич, «клевещете». Когда о накачке белорусской экономики пустыми деньгами заикнулся бывший первый вице-премьер российского правительства Анатолий Чубайс, президент нашей республики дал ему решительный отпор — не допускал он эмиссии и все тут...**

— Не допускал, хотя к посевной наштамповали несколько триллионов ни на чем не базирующихся бумажных «зайчиков», на жилищное строительство — еще 5 «воздушных» триллионов, на покрытие дефицита бюджета — не менее 6 триллионов, по политэкономической своей сути тоже пустых.

По такому случаю, на мой взгляд, очень уместно прозвучал бы часто употребляемый Александром Григорьевичем афоризм: «Сегодня надо меньше брехать!». Как я уже сообщал в «Народной воле» в одном из предыдущих номеров, за 1997 год денежная масса в Беларуси выросла с 20,8 триллионов рублей более чем в два раза и достигла 42 триллионов рублей.

1998 год тоже ознаменовался ростом объема пустых денег. Президент, правительство и «палата» общими усилиями установили только плановый годовой уровень эмиссии в размере 30 процентов от уже имеющейся денежной массы. Судя по предварительным итогам первого квартала, план производства ничем не обеспеченных купюр будет значительно перевыполнен. По прогнозу Национального исполнительного комитета, в 1998 году объем денежной массы как минимум удвоится и составит свыше 80 триллионов белорусских рублей. Только в марте почти триллион «зайчиков» выброшено в нашу промышленность, в нашу экономику, а на недавнем совещании в Гродно президент уверял, что ни за что не позволит запустить печатный станок.

**— Своим скепсисом Вы подрываете авторитет главы государства. Сегодня ведь как выходит: кто не верит в стойкость «зайчика» — тот усомнился и в самом Лукашенко.**

**Надо просто верить, как тот рабочий завода «Строммашина», которого с его мнением — «Президент всегда прав!» — выпустили на телеэкран. Просто верить, не допуская до сознания вот таких цифр: валютный резерв Национального банка Беларуси на начало 1998 года составлял 80 миллионов долларов, на 1 февраля — всего 17,7 миллиона доллара, на сей день уже образовался валютный долг в 8 миллионов долларов. В 1995 году, когда при Лукашенко впервые «зайчика» тряхануло, Нацбанк курс удержал, а возглавлял тогда Нацбанк ныне опальный финансист Станислав Богданкевич, и было тогда при нем золото-валютных резервов на сумму 275 миллионов долларов.**

**От чего же опустела валютная казна державы! Знаете, если человек-таки не верит президенту, а мыслит обывательски, он может подумать: должно быть, Александр Григорьевич с приближенными профукали валюту в Нагано. Ведь поговаривают же бывшие там люди, что только десятки тысяч долларов уплачено за коттедж, в котором две недели проживал на Олимпиаде президент кое с кем. Вот так погуляли — аж «зайчик» рухнул.**

— Валютный резерв накапливается в Нацбанке за счет успешной внешнеэкономической деятельности. Этот источник поступлений усыхает. В официальной программе социально-экономического развития страны до 2000 года экспорт обозначен как приоритет, а толку что? В 1997 году отрицательное сальдо во внешней торговле составило 1,5 миллиарда долларов. Вообще, в 1997 году поступление валюты в бюджет республики сократилось на четверть по сравнению с годом предыдущим, а за истекшее время — еще почти на 30 процентов по сравнению с предыдущим 1997-м годом. Это и есть одна из важнейших экономических причин невозможности поддержания курса белорусского рубля по отношению к американскому доллару и немецкой марке, российскому рублю и украинской гривне, литовскому литу и латышскому лату, эстонской кроне и польскому злотому.

**— Президент быстро зажал скакнувшего вниз «зайчика» в железной своей руке и победным жестом поднял его вверх. Неделю спустя после «черной пятницы», курс его взлетел до 42 тысяч за один доллар. Легко, по одному только административному хотению, свершилось еще одно белорусское «экономическое чудо». По сообщению премьера Сергея Линга, понесли кару 488 ответственных работников. Председатель Комитета госконтроля Николай Домашкевич активно принялся разоблачать коррупционеров. Для Национального банка 20 марта стала еще одной «черной пятницей»: президент снял с должности председателя правления Геннадия Алейникова и трех его заместителей.**

**Как бы ни рассудили Вы, Геннадий Дмитриевич, а народ будет в восторге от предпринятых решительных мер и столь блистательного результата. Люди всегда впадают в восторг, когда глава государства ударом кулака по столу справляется со сложнейшими проблемами. Жаль только, что Александр Григорьевич заодно не распорядился: весне — наступить! И была бы уже настоящая, бурная весна, припекло бы долгожданное солнышко, надоевший снег мигом стаял бы.**

**А когда схлынут вешние воды и белорусский рубль опять поползет вниз, народ этого и не заметит. Зато в благодарной его памяти навсегда останется, как ловили взбесившегося «зайчика» сыщики КГБ, как взял «под колпак» обменные пункты Совет безопасности, как товаропотоки молока и сметаны контролировали отборные силы Министерства внутренних дел. Вот это, скажут люди, порядок!**

— Я и сам ценю добрую и даже соленую шутку, но тут уже не до ерничества. Жуткая вырисовывается картина — экономика удерживается на штыках...

«Зайчик» становится символом национальной трагедии, и это уже безо всякого преувеличения...

*«Народная воля», 27 марта с. г.*

☺ З АЛЬБОМА НЕСЯМЕЙНАГА

## Для дома, для семьи, для души...



*Вясна надзеі...*
*Фота А. ГАНЧУКА.*

☺ ПРАВОСЛАВНЫЙ КАЛЕНДАРЬ

## Великий пост

Пост есть постоянная умеренность в пище с благоразумною разборчивостью в ней.

Намереваясь посвятить себя на служение Богу, положим в основание подвига нашего пост.

Наилучшим постом признают святые отцы употребление пищи однажды в день не до сыта. Такой пост не расслабляет тела продолжительным неедением и не отягащает его излишеством пищи, при том сохраняет его способным к душеспасительной деятельности. Такой пост не представляет никакой яркой особенности, и потому постящийся не имеет причины к превозношению, к которому так склонен человек по поводу своей добродеятели, особенно когда она резко выставляется.

*Свт. Игнатий Брянчанинов*

XXX

... Если вы будете прощать людям согрешения их, то простит и вам Отец ваш Небесный, а если не будете прощать людям согрешения их, то и Отец ваш не простит вам согрешений ваших.

Также, когда поститесь, не будьте унылы, как лицемеры, ибо они принимают на себя мрачные лица, чтобы показаться людям постящимися. Истинно говорю вам, что они уже получают награду свою. А ты, когда постишься, помажь голову твою и умой лице твое, чтобы явиться постящимся не перед людьми, но пред Отцом твоим, Который втайне; и Отец твой, видящий тайное, воздаст тебе явно.

Не собирайте себе сокровищ на земле, где моль и ржа истребляют и где воры откапывают и крадут, но собирайте себе сокровища на небе, где ни моль, ни ржа не истребляют и где воры не подкапывают и не крадут, ибо где сокровище ваше, там будет и сердце ваше.

*Мф. 6, 14—21.*

☺ ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

## Свет мой зеркало...

Сильно загрязненное зеркало промывать следует составом: на 1 стакан воды берут 1 ст. ложку нашатырного спирта, смешивают с мелом или зубным порошком до образования кашицы; мягкой тряпкой, смоченной в нем протирают зеркало, после этого — бумагой. Тряпку сильно мочить не рекомендуется: вода, попавшая на зеркало, может испортить его. Чистое зеркало периодически в профилактических целях промывают холодной водой с примесью бельевой синьки, это придает ему приятный блеск. Вместо синьки можно воспользоваться разбавленным настоем чая. Пятна от мух на зеркалах удаляют при помощи разрезанной сырой луковицы. После обработки луковицей зеркало нужно тщательно протереть, лучше всего тканью с крученой ниткой, которая не оставляет на стекле волокна. Зеркало, натертое сырой луковицей, мухи не засиживают.

Вешать зеркало надо в таком месте, где свет на человека падал бы равномерно. Кое-кто размещает зеркало поближе к свету, ошибочно полагая, что чем лучше оно освещено, тем отчетливее в нем видно изображение. Следует поступать наоборот, к тому же от солнечных лучей и высокой температуры оно тускнеет.

☺ КАЛЕНДАРЬ САДОВОДА И ОГОРОДНИКА

## Апрельские заботы

Основные работы в начале апреля — в саду. Что это на яблоньке — прошлогодний сухой лист? Увы, это гнездо вредного насекомого боярышницы. Еще удобнее у нее “квартира” в оставшихся висеть с осени плодах. Снимите их и уничтожьте. Гнезда златогузки придется срезать вместе с веткой, к которой они прилепились. Вырезав погибшие и поврежденные морозом веточки, вы разом избавите сад от щитовок, короедов и др., а перекопав почву — и от пилильщика, плодожерки. На ягодных кустах выщипните разросшиеся “кочанчики” — обиталища почкового клеща.

Пока на деревьях нет листьев, легко разглядеть повреждения коры. Зачистите их острым ножом, продезинфицируйте раствором медного купороса (10 г на 1 л воды) и замажьте садовым варом. Самое время устроить саду и “горячий душ”. Вскипяченной водой (не выше 60—70 градусов) из лейки окропите сверху кусты смородины и крыжовника, а также земляники (40—45 градусов). “Банный день” лучше провести до распускания почек. После душа почву под ягодными кустами взрыхлить, внести в нее необходимые удобрения, укрыть приствольные круги кусками рубероида, пленки, плотной бумаги (влагу сохранить и вредителям воспрепятствовать выйти на ружу). Самый же разгар борьбы с вредителями — от распускания почек до цветения. Самый простой способ: расстелить под деревом кусок брезента или мешковины и концом палки, обмотанной мягкой тряпкой, постукивать по веткам. И так 3—4 раза. Рано утром или поздно вечером, в безветренную погоду. Вредителей — в ведро с водой и небольшим количеством керосина. Опрыскивать можно настоем чеснока, табака других растительных ядов.

☺ ХОЗЯЙКЕ НА ЗАМЕТКУ

**Витаминные напитки из еловой хвои.** От веток хвою отделяют ножницами из нержавеющей стали. Промывают в холодной воде. Опускают в кипяток и кипятят 20—30 мин. Процеживают. Добавляют сахар, капустный рассол или сок хрена и разливают в бутылки. Холодный способ приготовления заключается в том, что измельченную хвою заливают тройным количеством кипяченой воды и настаивают 2—3 ч.

● ПРАВІНЦЫЯЛЬНЫЯ ГІСТОРЫІ

## НОРАВЫ І... ВЫНІКІ

Нельга, бадай, аспрэчваць тое меркаванне, што аматары выпіць і пакурыць "на п'яную руку" міжволі становяцца на коўзкую, а часам вельмі небяспечную сцяжынку, калі не сказаць, што яны ўвогуле становяцца патэнцыяльнымі смертнікамі. Вось менавіта так адбылося ў жыцці жыхара Івацэвічаў 48-гадовага Міхаіла Кірылюка.

Меў ён у горадзе многа таварышаў-сабутэльнікаў і, мабыць, таму меў магчымасць адведаць беленькай даволі часта. Нават праблемы з яе набыццём амаль не адчуваў. Сябрукі-выпівакі часта наведвалі летнюю кухню ў двары Кірылюкоў, дзе жыў Міхаіл Мікалаевіч разам з сваёй сужыцелькай В. М. Пытляк побач з домам сваіх бацькоў. Здаралася, стукалі ў вокны жылля Кірылюка жадаючыя пахмяліцца ў любы час у пошуках надзейнага кампаньёна. А было і такое, калі сам Кірылюк вяртаўся дамоў далёка за поўнач ці ўвогуле, будучы непрытомным ад выпітай гарэлкі, губляў усялякую арыентацыю ў прасторы, а разам з ёю забываў і знаёмую сцяжынку да дома і заставаўся ляжаць п'яны, брудны недзе пад плотам, пакуль яго не знаходзілі там сужыцелька ці брат і не цягнулі дамоў. Але, як ужо заўважалася вышэй, любіў Міхаіл Кірылюк не толькі напіцца да поўнай страты прытомнасці і поўнага ачмурэння, але і добра пакурыць.

Як вядома, чарка з цыгарэтай — у сваім спалучэнні прыводзяць да поўнай гібелі. Нешта падобнае ўжо адбылося летась, напрыканцы года, калі, вярнуўшыся дамоў позна ўвечары моцна п'яным, ён адразу ж улёгся на канапу і моцна заснуў. Прачнуўшыся ноччу, яму дужа закарцела пакурыць, ды гэтак моцна, што стрымацца Міхаіл Мікалаевіч не змог і, прыкурыўшы цыгарэту, ён зноў жа выцягнуўся на канапе... Вынік — узгаранне пасцельных рэчаў. Але на той раз сужыцелька Валянціна Мікалаеўна хутка адчула пах дыму і, хоць з вялікай цяжкасцю, але разбудзіла мужа. Разам яны спрабавалі патушыць гарэўшыя рэчы і сцяну ў летняй кухні, але без дапамогі пажарных ім не ўдалося абысціся.

Чарговая хваля беспрабудных п'янак захліснула Кірылюка ў сёлетнім сакавіку. Запіваў па некалькі сутак запар, пахмяляўся і зноў акунаўся ў хмяльны вір. Што ж, нічога не перашкаджала Кірылюку, бо ніякімі іншымі справамі ён не быў абцяжараны. І вось у вечары 24 сакавіка Валянціна Мікалаеўна, вяртаючыся з магазіна, у чарговы раз знайшла свайго сужыцеля п'яным пад суседскім плотам. Прыцягнула дамоў, абмыла, распранула, уклала спаць. Неўзабаве позна ноччу, недзе каля гадзіны ночы, сам Кірылюк прачнуўся з мэтай пакурыць і выйшаў у невялічкую веранду летняй кухні. Відаць, здзейсніць сваю запаветную мару ў ложку ён ужо не адважваўся. Праз хвіліну-другую ён вярнуўся і зноў улёгся спаць.

І на гэты раз пах дыму першай адчула сужыцелька Валянціна Пытляк. Дакладней, яна прачнулася не столькі ад дыму, колькі ад нейкага нібыта стуку-скрыгатання. Тут жа паднялася і накіравалася на веранду. Не паспела яна адчыніць уваходныя дзверы, як адтуль шуганула полымя. Жанчына кінулася зноў будзіць мужа, трэсла яго, клікала, спрабавала нават цягнуць, але ўсё дарэмна — п'яны Кірылюк спаў дужа моцна.

Між тым пажар разгараўся, набіраў моцы і агонь ужо прабіваўся ўнутр летняй кухні не толькі праз дзверы, а і праз сцены і столь. Пажар разгараўся літаральна на вачах, сквапна знішчаючы ўсё на сваім шляху. Пагроза гібелі навісала над жыхарамі летняй кухні. Ратуючыся з вогненнай пасткі, жанчына (на ёй ужо бралася гарэць адзенне) разбіла ваконнае шкло і вылезла праз вакно на вуліцу. Тут яна паклікала на дапамогу суседзяў, аднак прабрацца ўнутр гарэўшай летняй кухні ніхто не рызыкнуў. Выклікалі пажарных, якія ліквідавалі пажар, не даўшы яму распаўсюдзіцца на размешчаныя побач будынкі. У летняй кухні на ложку яны знайшлі абгарэлы труп Міхаіла Кірылюка.

Пры расследаванні высветлілася, што прычына ўзнікнення пажару крыецца ў неасцярожнасці пры курэнні з боку самога загінуўшага — у кінутым дзесьці ў захламлёнай верандзе непатушаным акурку. Валянціна Пытляк з атрыманымі апёкамі 1-й і 2-й ступеняў рукі і спіны змешчана ў бальніцу.

Нагадаю, што гэта ўжо чацвёртая ахвяра агню ў нашым раёне за першыя тры месяцы года. Трое з іх загінулі ад уласнай неасцярожнасці пры курэнні.

*В. МОЛАШ,*
*ст. супрацоўнік*
*ЦНППБ АВПС*
*Івацэвіцкага раёна.*

● ПОСТ ДАІ

## І Ў РАБОЧЫ ЧАС П'ЮЦЬ...

Недзе чытаў, што ў Англіі вадзіцель, перш чым сесці за руль аўтамабіля, можа пабываць у гасцях, выпіць не больш двух бакалаў віна. Заўважце, таксама ёсць абмежаванні. Дарэчы, у нас больш жорсткія правілы: сядаць за руль любой машыны пасля ўжывання віна ці гарэлкі проста забаронена. Вось так.

Мне думаецца, што гэтую простую ісціну ведаюць усе вадзіцелі, усіх відаў транспарту. А як яна ажыццяўляецца на практыцы?

На гэта пытанне дала адказ аперацыя "Аўтобус", што праводзілася ў раёне. У ёй удзельнічалі тры групы нашых супрацоўнікаў. Выяўлена ўсяго 155 парушэнняў. Затрымана 12 вадзіцеляў, якія кіравалі транспартам у нецвярозым стане.

Так, трактарыст М. Ф. Бурчук (калгас імя Мічурына) на працягу года двойчы ў рабочы час затрымліваўся п'яным за рулём МТЗ-82. У сувязі з гэтым яго справу будзе разглядаць народны суд. І, вядома, ніякай палёгкі не будзе.

У ліку тых трактарыстаў, хто ў рабочы час кіраваў транспартам на падпітку, М. В. Кот і М. І. Ляшок (калгас імя Леніна), К. Я. Дзягцярык і М. П. Дзягцярык (калгас імя Куйбышава), шафёр МАЗа А. М. Андрыевіч (з калгаса "Расія". Усе яны абавязкова панясуць пакаранне.

Трактарыст А. М. Ісакаў (калгас "Расія") на сігнал міліцыянера спыніцца не толькі не спыніў свой МТЗ-80, а наадварот прыбавіў газу. Прыйшлося яго даганяць. Пры праверцы аказалася, што ён пад добрым хмяльком. За непадпарадкаванне работнікам міліцыі А. М. Ісакаў начальнікам раённай дзяржаўтаінспекцыі аштрафаваны на 1.250 тысяч рублёў. А народным судом ён падвергнуты арышту на чацвёра сутак. З іншых парушэнняў правілаў дарожнага руху трэба адзначыць наступныя: перавышэнне хуткасці руху, пераезд скрыжаванняў і пераездаў, абгон... Словам, парушальнікаў на нашых дарогах і вуліцах яшчэ многа. Гэта паказаў нядаўняя аперацыя "Аўтобус".

***А. АРЦЁМЧЫК,***
***камандзір узвода дарожна-патрульнай службы дзяржаўтаінспекцыі Івацэвіцкага райаддзела міліцыі, капітан міліцыі.***

## ПРАВОСЛАВНЫЙ КАЛЕНДАРЬ НА АПРЕЛЬ

***4 апреля*** — Похвала Пресвятой Богородице;
***7 апреля*** — Благовещение Пресвятой Богородицы;
***11 апреля*** — Лазарева суббота;
***12 апреля*** — Вход Господен в Иерусалим (Вербное воскресение);
***13—18 апреля*** — Страстная седмица;
***19 апреля*** — Пасха. Светлое Христово Воскресение;
***28 апреля*** — Радоница. Поминовение усопших.



● ПА ВАШАЙ ПРОСЬБЕ

## Касеты — поштай

**На складзе БГФ "Наша Ніва" ёсць касеты (кошт 42.000 руб. + 7.000 руб.)**

Ален. Нармалёк (1995)
Ален. Нармалёк 2 альбо Мафія (1996)
Вольга Акуліч. Трохкутнік
Вальжына Цярэшчанка (1991—1995)
Беларускія народныя казкі
Музычныя казкі (1996)
Бонда. Найлепшыя песні
Данчык. Я ад вас далёка. Мы адной табе належым
Данчык. Мы яшчэ сустрэнемся.
Новае неба. Дзеці чорнага горада (1991)
Новае неба. Сон у трамваі (1994)
Новае неба. Мая краіна (1996)
Крама. Хворы на рок-н-рол (1993)
Крама. Гэй, там, налівай! (1994)
Крама. Камендант (1995)
Крама. Лепшыя песні (1993—1995)
Мроя. Найлепшыя песні з праграмаў (1988—1990)
NRM. Одзірыдзідзіна (1996)
Беларуская музычная літаратура (т. 1-4)
Залаты фонд Беларускага рок-н-ролу (т. 1-5)
Рок па вакацыях-96 (НРМ. Уліс. Флэт. Торнаго. Крама. Рублёвая зона. Новае неба. А. Шадзько і А. Юшын)
Будзьце аптымістамі, рабіце дзетак (Новае неба. Ляпис Трубецкой. НРМ. Палац, 1996)
Беларускі джаз т. 1. Рэнэсанс т. 2. Ігар Сафонаў т. 3. Яблычная гарбата. Пчаліны танец.
Беларуская гітарная музыка (1996)
Яўген Паплаўскі. Творы (1996)
Лепшыя музычна-драматычныя творы радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная" т. 1. Чалавек, якому хацелася ўсяго (памяці Ф. Меркуры) т. 2. Лесвіца ў нябёсы (фантазія па матывах Лед Зепелін, Роберта Планта і Рычарда Баха) т. 3. Танец поўні (прагулка са Стынгам)
Андрэй Мельнікаў. Успамін (1994—1995)
Андрэй Мельнікаў. Салам Саўкам (1993)
Андрэй Мельнікаў. Песні выгнання (1991—1993)
Андрэй Мельнікаў. Камяні майго вогнішча (1994—1995)
Андрэй Мельнікаў. Да апошняга камісара (1995—1996)
Андрэй Мельнікаў. Гэта мы (1996)
Андрэй Мельнікаў. Шлях. 2 часткі (1996)
Уліс. Краіна доўгая белай хмары (1990)
Уліс. Чужаніца (1991)
Уліс. Танцы на даху (1993)
Уліс. Life-96
Уліс. Блуканне (1996)
Мясцовы час. Наша ўскраіна (1991)
Віктар Шалкевіч. Смутны беларускі блюс (1996)
Палац (1995)
Песні беларускіх бардаў (1992)
Рок супраць рэвалюцыяў (Новае неба. Зіндан. Уліс. Мроя. Крама, 1994)
Маладзёжныя хрысціянскія спевы. Прыйдзі і праслаўляй (1996)
Ліцвіны. Неба і зямля (1994)
Ліцвіны. Пятае сакавіка (1996)
Зміцер Бартосік. Да пабачэння... (1996)
Уладзімір Клімовіч. Дзеці вятроў (1997)
Камэлот. У краіне талераў (1995)
Эдуард Акулін. Мая Крывія (1996)
Неруш (1997)
Ігар Палівода. "Максім" (1997)
Новае неба. Выбранае. Песні з альбомаў 1990—1996 г.
Уліс. Ратуйце вашыя душы. Песні з альбома 1996 г.
KRIWI — праект фольк-мадэрн студыі "Палац"
Ліцвіны. Галуб на чарэшні.
Песнярок. Песні "Песняроў" у выкананні "Крамы", NRM, "Троіцы", "Тарнада", "Пані Хіды", "Ляпис Трубецкого", "Нейродюбеля", Валіка Грышко
Белы сон (Беласток, 1997)
Харошкі. Полацкі сшытак, традыцыйная музыка (1997)
Жыгімонд Ваза. Стан Галюцынацыі
Марыя Скуратовіч. Табе, Хрысьце!
Кардон. Радыяцыя
Мроя. Дваццаць восьмая зорка
Народны альбом: Супольны музычны праект (1997)
Made in Belarus: Беларускія застольныя песні ў танцавальнай апрацоўцы (1997)
Сяржук Мінскевіч. Шляхі (1997)
Палац. Дарожка (1997)
Данчык. Беларусачка і іншыя песні (1974/1998)
Мясцовы час. Падвойны альбом (1998): Слота (1989), Мой дом (1990)

**Касеты можна замовіць праз пошту: 220085 Мінск, а/с 5, Віталь Супрановіч.**

Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420x300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 31 сакавіка ў 9.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку. Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.
НАШ АДРАС: рэдакцыя "Газеты для вас".
вул. Дзяржынскага, 30, 225250, г.Івацэвічы.
Тэлефон: 8 (245) 2-12-29.



*Тыраж 1600.*
*Заказ 987.*